ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ № 100

6 – 12 студзеня 1995г. (№ 1) Кошт 100 рублёў




КАЛОНКА РЭДАКТАРА

## НЕ РАЗЬБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ!

Паважаныя чытачы! Сёньня Вы трымаеце ў руках юбілейны - соты нумар "ПАГОНІ". Сто тыдняў запар, нягледзячы ні на якія перашкоды, "Пагоня" прабівалася да Вас, несучы на сваіх старонках словы праўды.

Сто тыдняў... Мы многае перажылі разам з Вамі за гэты час. Пасталелі, вырасьлі... Больш чым у 10 разоў павялічыўся за гэты тэрмін наклад газеты! Па выніках падпісной кампаніі мы падвоілі лік сваіх падпісчыкаў. Агульны лік сталых сяброў "Пагоні" складае цяпер амаль 1600 чалавек. 100 тыдняў назад не было ніводнага, як не было і самой "Пагоні".

Сто тыдняў... Кожны з іх стаўся суровым выпрабаваньнем на жыцьцяздольнасьць для незалежнага беларускага друку. Тым не менш, "Пагоня" не згубілася ў моры шматлікіх праблемаў, якія штучна ствараліся вакол вольнага слова то Кебічам з ягонай хеўрай, то Лукашэнкам з ягонымі "прагматыкамі". Патугі аматараў "трымаць і не пушчаць" нязьменна разьбіваліся дзякуючы велізарнай арганізацыйнай, маральнай і фінансавай падтрымцы нашых сяброў і прыхільнікаў, Вас, нашыя паважаныя сябры! І таму мы віншуем Вас усіх з гэтым юбілеем!

Вельмі сімвалічна, што ён супаў са сьветлым сьвятам Нараджэньня Хрыстовага. У гэтыя дні, калі Сын Божы прыйшоў у сьвет дзеля нашага збаўленьня, "Пагоня" працягвае свой няўрымслівы бег да душаў і сэрцаў людзкіх. Такое супадзеньне нас да многага абавязвае. І найперш да таго, каб не толькі у гэтыя сьвятыя дні, але і ў кожны дзень абуджаць самыя лепшыя, самыя ўзвышаныя пачуцьці, супрацьстаяць сілам Цемры, што пануюць сёньня на Беларусі. Толькі тады наша жыцьцё набудзе сапраўдны сэнс, усталюецца на непарушным грунце, будзе годным нашага чалавечага і хрысьціянскага званьня.

Няхай Новы год прынясе ў нашу сям'ю шчасьце і згоду! Няхай дасьць нам Збавіцель сілы і моцы! Не пакідайма адзін аднаго і надалей! Жыве "Пагоня"! Жыве Беларусь!

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Запрашаем усіх сяброў газеты на вечарыну, прысьвечаную выхаду юбілейнага сотага нумара "Пагоні". Яна адбудзецца 6 студзеня у Гарадзенскім тэатры лялек. Пачатак а 19-ай гадзіне. Уваход вольны.**

ВІНШАВАНЬНІ

**Рэдакцыя газеты "Свабода" віншуе сваіх калег з "Пагоні" з выхадам 100-га нумара іхняга штотыднёвіка.**

**Газеты з падобнай назвай выходзілі ў розныя часы ў розных гарадах і нават краінах. Таму гістарычна "Пагоні" наканавана доўгае жыцьцё.**

**Жыве Беларусь!**

*Паважаныя калегі!*

*У сувязі з Вашым сьціплым сьвятам - выданьнем сотага нумара ўзноўленай "Пагоні" - мы шчыра ўдзячны выпадку адзначыць, што калектыў газеты шукае свае месца ў дэмакратычнай плыні сучаснай беларускай журналістыкі. Гэтая накіраванасьць заўважана і заслужана ацэнена грамадзкасьцю Гарадзеншчыны, рэспублікі, бліжняга і дальняга замежжа, што відаць па ўпэўненаму росту наклада і аўтарскага актыва.*

*Сёньня газетам надзвычай цяжка, асабліва нацыянальным, і тройчы - тым, якія адлюстроўваюць рэчаіснасьць, не афарбаваную колерам улады.*

*Спадзяемся, што і надалей "Пагоня" будзе служыць справе адраджэньня, незалежнасьці і суверэнітэта нашай краіны.*

*Жыве Беларусь!*

**Калектыў рэдакцыі газеты "ВЫСОТА".**

Рэдакцыя газеты "Большая Медведица" віншуе сваіх калег са сьвятам - выхадам першага трохзначнага нумара.

Жадаем посьпехаў у пагоні за славутасьцю, ўдзячнасьцю чытача, а таксама цікавых матэрыялаў.

Маем надзею на плённае супрацоўніцтва.

**Рэдакцыйны калектыў газеты "БОЛЬШАЯ МЕДВЕДИЦА".**

**Шаноўная рэдакцыя!**

**Аўтарытэт газеты для нашага Гарадзенскага дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў пацьвярджаецца тым, што амаль кожны сябра нашай арганізацыі зьяўляецца падпісчыкам "Пагоні".**

**Жадаем і далей бачыць на старонках газеты праўдзівую, дасканалую, аператыўную інфармацыю, а таксама грунтоўныя артыкулы па дасьледаваньню гісторыі Бацькаўшчыны.**

**Рада праўленьня ДАВ.**

*Паважаная рэдакцыя газеты "Пагоня"!*

*Як сталы чытач з першага да 99-га нумара вашай газеты віншую рэдакцыю. Шаноўная адзіная беларускамоўная, праўдзівая, дэмакратычная газета, са сьвятам 100-га нумара.!*

*Хацелася б, каб газета "Пагоня" была невычарпальнай, чыстай крыніцай Беларушчыны, нацыянальнага і эканамічнага "Адраджэньня".*

*Шаную і шчыра кланяюся.*

**Кастусь ЖЫНЬ, Сябра Сойму БНФ "Адраджэньне".**

Паважаныя "Пагонеўцы"!

Дзякую Вам за тое, што ў гэты цяжкі для Беларусі час Вы не даеце згубіць надзею на тое, што "загляне сонца і ў наша ваконца", за тое, што, чытаючы "Пагоню", пачынаеш верыць, што і ў нас будзе сапраўдная дзяржава і сапраўдны Прэзідэнт, што ёсьць яшчэ людзі, якія не дадуць крыўдзіць нашу мову.

Віншую Вас з Новым годам, з Калядамі і са сьвяточным 100-ым выпускам "Пагоні", жадаю здароўя, шчасьця, дабрабыту і посьпехаў у Вашай нялёгкай, але пачэснай працы.

**Ваш чытач М.БЕЛАКОЗ.**

**Я люблю "Пагоню"**

**за аператыўнасьць, праўду, своечасовасьць, сьмелыя артыкулы аўтараў і пазаштатных карэспандэнтаў - гэта тое, што розьніць "Пагоню" ад іншых сродкаў "Мас-Медыа".**

**А.БАШКО.**

АХВОТНІКАЎ, СІМПАТЫКАЎ І ПАТРЫЁТАЎ БЕЛАРУШЧЫНЫ ЗАПРАШАЕМ ВОСЬМАГА СТУДЗЕНЯ Ў 14.30 ДА СШ N 26 АДСЬВЯТКАВАЦЬ КАЛЯДНЫЯ СЬВЯТЫ РАЗАМ З НАМІ.

Аргкамітэт.

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СВАБОДА, РОЎНАСЬЦЬ, САЛІДАРНАСЬЦЬ




*Беларуская Сацыял-Дэмакратычная грамада (БСДГ) заснавана ў сакавіку 1991 года. Папярэднікамі БСДГ былі Беларуская Сацыялістычная Грамада (1903-1918 г.г.) і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (1918-1924 г.г.). Заслугай беларускіх сацыялістаў зьяўляецца абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г.*

Першым старшынёй Цэнтральнай Рады БСДГ быў вядомы беларускі вучоны і палітык Міхась Ткачоў. Яго пераемнікам на гэтай пасадзе стаў народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў. Дэпутацкая фракцыя Грамады ў Вярхоўным Савеце налічвае 12 чалавек. Сярод іх Віктар Алампіеў, Мікалай Крыжаноўскі, Анатоль Вярцінскі, Віктар Какоўка, Яўген Цумараў, Леанід Дзейка і інш. Сацыял-дэмакраты ёсьць сярод дэпутатаў абласных, раённых, гарадзкіх і сельскіх Саветаў. Анатоль Гурыновіч, намесьнік старшыні Мінгарсавета, і старшыня патрыятычнага руху "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў" Мікалай Статкевіч зьяўляюцца сябрамі Цэнтральнай Рады БСДГ. Арганізацыі БСДГ дзейнічаюць ва ўсіх абласных і большасьці раённых гарадоў рэспублікі. Колькасьць сяброў Грамады дасягае 1500 чалавек. У шэрагах партыі шмат інжэнераў і тэхнікаў, выкладчыкаў і настаўнікаў, кваліфікаваных рабочых і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, людзей з вучонымі ступенямі кандыдатаў і дактароў навук. Партыя сацыял-дэмакратаў у сучасны перыяд выконвае тры функцыі: ліберальную, уласна сацыял-дэмакратычную і патрыятычную. Ліберальная функцыя Грамады заключаецца ў тым, што мы актыўна выступаем за радыкальнае рэфармаваньне эканамічнага жыцьця рэспублікі. Як сацыял-дэмакраты, мы, безумоўна, выказваемся за абарону правоў і жыцьцёвыя інтарэсы чалавека працы. Патрыятычная функцыя Грамады ў тым, што мы баронім суверэнныя правы народа Беларусі, Беларускай дзяржавы, яе незалежнасьць.

НАШЫ ПРЫНЦЫПЫ - СВАБОДА, РОЎНАСЬЦЬ, САЛІДАРНАСЬЦЬ.

СВАБОДУ мы разумеем як права чалавека быць вольным у вызначэньні свайго лёсу, вольным у выбары, вольным ад палітычнага, адміністрацыйнага прымусу. СВАБОДУ як павагу да думкі і правоў меншасьці - нацыянальнай, сацыяльнай, палітычнай, рэлігійнай.

РОЎНАСЬЦЬ мы разумеем як раўнацэннасьць усіх людзей, як перадумову свабоды і свабоднага разьвіцьця чалавека.

САЛІДАРНАСЬЦЬ мы разумеем як выяўленьне ўзаемасувязей людзей, як асноўную ўмову выжываньня чалавечага роду. Спагада, спачуваньне, узаемная павага складаюць аснову САЛІДАРНАСЬЦІ.

БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ - актыўны ўдзел у выбарах новага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з мэтай:

- адхіленьня ад улады пракамуністычнай наменклатурнай праслойкі;
- правядзеньня радыкальных эканамічных рэформ, фарміраваньня шматукладнай рыначнай эканомікі;
- жорсткай барацьбы са злачыннасьцю, выкараненьня карупцыі;
- сацыяльнай абароны людзей наёмнай працы пры асаблівай увазе да пеньсіянераў, хворых, інвалідаў, дзяцей і моладзі.

Партыя выдае свой штомесячны бюлетэнь "Навіны Грамады".

Нашы адрасы і тэлефоны.

Штаб-кватэра Грамады: 220026, Менск, Партызанскі пр-т, д.83, кв.53. Тэл. 46-46-91, факс 45-78-52.

Для лістоў: 220026, Менск, а/с 129.

Арганізацыі: Горадня - 33-67-06, 5-26-05, факс 31-78-94; г.Пінск - 5-65-63, г.Віцебск - 5-95-47, г.Гомель - 56-72-33, г.Берасьце - 3-98-88; г.Жлобін - 2-44-65; г.Магілёў - 22-45-88, 22-33-88, 23-52-00; г.Баранавічы - 5-64-60, факс 2-31-39; г.Маладзечна - 6-08-84.




## ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД ЖЫХАРОЎ Г.ГОРАДНІ

Мы, жыхары нашай роднай краіны Беларусь, зьвяртаемся да Прэзідэнта Беларусі з запытам: колькі разоў будуць пэўныя сілы мяняць Канстытуцыю і дабаўляць папраўкі да яе?

Бальшавікі мянялі Канстытуцыю некалькі разоў так, як ім хацелася, як ім было выгадна - народ быў у змане, і Савецкі Саюз мусіў разваліцца. Чаму? Таму што інтарэсы народа ніхто не абараняў. Наадварот, інтарэсамі народа злоўжывалі прайдзісьветы ад ЦК КПСС.

Даведаўшыся пра падпісаньне пастановы М.Грыба да Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб стварэньні камісіі па пытаньнях дзяржаўнай сімволікі, мы, сумленныя жыхары Беларусі, не можам маўчаць, калі зьневажаюць дзяржаўны герб, сьцяг. Таму што настаў другі час - народ цяпер патрабуе шанаваць наш герб, сьцяг, дзяржаўную мову. Трэба даць адпор розным чырвона-карычневым сілам, якія, як наросты на жывым целе, паратызуюць на нашым сумленьні, а наўзамен прапануюць нам то "рублёвую зону", то "дзьвюхмоўе".

Спадар Прэзідэнт!

Мы патрабуем выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, каб і з Вашых вуснаў не зьневажаўся герб, сьцяг, дзяржаўная мова і каб была дадзена свабода сродкам масавай інфармацыі, а пэўным антынародным сілам (тыпу "Славянскі Сабор", ЛДП, Саюз афіцэраў і інш.) была дадзена Вамі за іх антыдзяржаўную дзейнасьць адпаведная адзнака.

Толькі беларуская мова, толькі наш герб "Пагоня", толькі наш бел-чырвона-белы сьцяг!

Жыве Беларусь!

**Падпісаліся больш за 200 чалавек.**

## ЗАЯВА
### выканкама Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады

22 сьнежня 1994 года газета "Советская Белоруссия" выйшла з белымі плямамі на дзьвюх старонках. На наступны дзень ў такім выглядзе выйшлі газеты "Звязда" і "Рэспубліка". На гэтым месцы вышэйзгаданыя газеты меліся зьмясьціць пераказ даклада дэпутата Сяргея Антончыка, у якім парламентарый выкрываў факты карупцыі ў бліжэйшым атачэньні прэзідэнта А.Лукашэкі. Карыстаючыся тым, што друкарня падпарадкавана апарату прэзідэнта, людзі з акружэньня Лукашэнкі забаранілі друкаваць пераказ даклада Антончыка.

Рэдакцыі "Советской Белоруссии", "Звязды" і "Рэспублікі" вымушаны былі выпусьціць свае нумары з белымі плямамі. Такім чынам, у Беларусі адноўлена цэнзура. Грамадзяне абмяжоўваюцца ў праве шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю. Пратэстуючы супраць дзеяньняў прэзідэнцкага апарату, выканкам Цэнтральнай рады БСДГ канстатуе, што афіцыйныя асобы краіны парушаюць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і нормы міжнародных актаў, якія падпісала і ратыфікавала наша дзяржава. Выканкам грамады лічыць патрэбным паведаміць аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі ўсім партыям сацыялістычнага Інтэрнацыяналу сьвету.

За апошнія два гады тры разы праводзілася ў Камітэце дзяржтэлерадыё так званая рэарганізацыя. Як вядома, у 1992 годзе пры такім пераўтварэньні пачаўся разгон дэмакратычна настроеных журналістаў, ліквідацыя такіх папулярных інфармацыйных праграм, як "Ніка". Праўда, поўнасьцю тады яе не прыкрылі, а звольнілі рэдактараў Бабкіну і Іванову. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў урад Кебіча рэарганізаваў Нацыянальную тэлерадыёкампанію у Камітэт дзяржтэлерадыё, дзе таксама разьвязаны разгон журналістаў і ліквідацыя папулярнай радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Не прайшло і паўгады, як была аб'яўлена наступная рэарганізацыя, цяпер ужо па ўказу прэзідэнта. І зноў прадстаўляецца магчымасьць пазбавіцца ад непажаданых для ўлад перадач і журналістаў. На гэты раз арганізатараў і стваральнікаў "Нікі" разагналі поўнасьцю. Звольнены адзін з актыўных яе рэдактараў Мікалай Сальмакоў, які 16 год працаваў у гэтай структуры. Паралізавана работа вядомых журналістаў, такіх, напрыклад, як Ганны Рацішкевіч, якія выведзены з рэдакцыі грамадзка-сацыяльных эканамічных праграм.

Выканкам Грамады рашуча пратэстуе і патрабуе аднаўленьня на рабоце старшага рэдактара інфармацыйных праграм Мікалая Сальмакова, накіроўвае гэты зварот Генеральнаму пракурору Васілю Шаладонаву і просіць ў якасьці пракурорскага нагляду праверыць законнасьць гэтага звальненьня. Паўстае пытаньне: ці не выкарыстоўваюцца такія арганізацыі для ганеньня дэмакратычна настроеных журналістаў?

## ГАЛОЎНАЕ ПРАВІЛА САПРАЎДНАГА ПРЭЗІДЭНТА
### Адкрыты ліст прэзідэнту Беларусі па моўнай праблеме

Паважаны прэзідэнт А.Р.Лукашэнка!

Мяне вельмі непакояць некаторыя вашы выказваньні пра беларускую мову (напрыклад, у Менскім педагагічным універсітэце, у Акадэміі навук Беларусі, пры зацьвярджэньні Гомельскім абласным Саветам вашага прадстаўніка па гэтай вобласьці). Іх сутнасьць можна выказаць так: беларускай дзяржаўнай мове не месца ў навуцы і вышэйшай адукацыі - бо яна, на вашу думку (у адрозьненьні ад расейскай і ангельскай моў), недастаткова вялікая.

Дазвольце тады адразу запытацца. А дзе яе месца (як, дарэчы, нямецкай, французскай, гішпанскай, арабскай, кітайскай ды ўсіх астатніх моў)? У кароўніках ды сьвінарніках? Дык вы ж першы скажаце, што не. Што я не так вас зразумеў.

Паколькі я не маю магчымасьці паразмаўляць з вамі асабіста, успрыміце мае далейшыя разважаньні на тэму мовы па магчымасьці спакойна, праз розум. Яны - вынік шчырага жаданьня дапамагчы вам не дапускаць далейшых палітычных памылак, жаданьня ўстрымаць вас ад нанясеньня шкоды нашаму беларускаму народу.

Паколькі мне нічога не вядома аб сапраўдных прычынах вашых паводзін, дазвольце разгледзець дзьве сітуацыі. У адпаведнасьці з першай з іх вашы выказваньні зьяўляюцца вынікам простага няведаньня фактаў, шчырай памылковасьці меркаваньняў (я, дарэчы, вельмі спадзяюся, што гэта найбольш верагодны варыянт). Тады паўбяды, і становішча можна хутка паправіць. Я зараз жа, на грамадзкіх пачатках (у адрозьненьні ад шаптуноў вакол вас) паспрабую вас пераканаць. Калі ж вашыя словы - гэта праява сьвядомай палітыкі "прэзідэнта Беларусі", тады гэта зусім іншая сітуацыя, тады размова будзе мець і іншы кшталт.

Ітак, дапусьцім, што вы проста яшчэ многага не ведаеце і таму робіце памылкі ў сваіх зьняважлівых адносінах да роднага слова. Паспрабуйце для пачатку перакласьці на "великий и могучий" тыя значэньні, якія нясуць хаця б наступныя пары беларускіх слоў: "любоў і каханьне", "густ і смак", "позірк і погляд". Вы абавязкова пераканаецеся, што "могучесть" расейскай мовы нярэдка перабольшваецца? Магчыма, зараз вы па-новаму асэнсуеце і словы Адама Міцкевіча, які яшчэ паўтара стагоддзя назад гаварыў пра беларускую мову як пра самую распрацаваную сярод усіх славянскіх моў (пра іншыя яе каштоўныя характарыстыкі я ўжо не ўзгадваю).

Што датычыць высокай ацэнкі вамі ангельскай мовы, дык я спадзяюся, што ўжо ў хуткім часе вы забясьпечыце жыхарам Беларусі самыя шырокія магчымасьці для авалодваньня ёю. Між іншым, нагадаю, што да гэтага часу выніковае навучаньне ангельскай мовы ў большасьці нашых школ фактычна адсутнічае. Зроблена так яшчэ ў былым СССР і не выпадкова, а для таго, каб яшчэ больш утрымліваць яго жыхароў ад жаданьня зьехаць за мяжу. Зараз мы сталі адкрытымі. Таму, падтрымліваючы ваша жаданьне, каб насельніцтва Беларусі авалодала галоўнай мовай міжнародных зносін, я прапаную ў якасьці першага кроку зрабіць так, каб тэлевізары жыхароў Беларусі прымалі па 2-, 3-х каналах замежныя ангельскамоўныя праграмы (лепш без перакладу). Паралельна можна пачаць папраўляць сьветапогляд многіх нашых грамадзян, скасабочаны ва ўсходнім накірунку з-за адпаведнай інфармацыйнай палітыкі папярэдніх кіраўнікоў. Я маю на ўвазе тое, што большасьць насельніцтва суверэннай Беларусі (краіны, між іншым, у цэнтры Эўропы, а Эўропа - пакуль што цэнтр міравой цывілізацыі), да гэтага часу могуць глядзець перадачы толькі па 4-ох тэлевізійных каналах, з якіх аж тры - расейскія (?!).

Але ж, у прынцыпе, я вам шчыра прапаную пакінуць у спакоі лаўры вядомага "мовазнаўцы і сябра ўсіх народаў і больш ніколі не выказвацца з ацэнкамі той ці іншай мовы, бо гэта не адпавядае ні профілю вашай адукацыі, ні ўзроўню вашай адукаванасьці.

Паважаны прэзідэнт. Будзем лічыць, што вам нехта ўвёў у вушы памылковую думку, быццам бы беларускай мовай зараз карыстаюцца толькі тыя, хто павінен ёй карыстацца па роду сваёй прафесійнай дзейнасьці. З гэтай нагоды інфармую вас, што ўсё выглядае зусім не так. Ужо зараз вельмі многія, хто па прафесіі зьяўляецца эканамістамі, урачамі, фізікамі, юрыстамі, інжынерамі ці проста рабочымі ды сялянамі, вярнуліся да роднай мовы. Такіх людзей асабліва многа ў асяроддзі прыхільнікаў нацыянальнага адраджэньня, прычым яны размаўляюць па-беларуску, як правіла, не з-за якіх-небудзь спецыяльных нацыяналістычных поглядаў, а проста з-за таго, што ўжо зараз лічаць няведаньне беларускай мовы праявай элементарнай культурнай недаразьвітасьці - тым, чаго яны сабе даравань не могуць.

Больш таго, усё часьцей можна заўважыць, напрыклад, у Горадні звыклых людзей, далёкіх ад якой-небудзь палітыкі, якія не толькі свабодна размаўляць па-беларуску, але і робяць гэта з нейкай ганарцой. Справа ў тым, што ўсе гэтыя людзі проста паступова перастаюць саромецца сваёй мовы. Адбываецца гэта, у прыватнасьці, з-за таго, што за апошнія гады яны бачаць і чуюць многіх паважаных імі людзей (у тым ліку на дзяржаўных пасадах), якія свабодна, не адчуваючы ніякіх комплексаў, гавораць па-беларуску. Шкада, што да гэтых людзей пакуль што нельга аднесьці вас.

Паважаны прэзідэнт. Калі ўсе прыведзеныя вышэй аргументы вас не пераканалі, зьвярніце ўвагу хаця б на тое, што не толькі вам, але, відаць, нікому не вядомы прыклады, калі кіраўнік якой-небудзь дзяржавы (я не кажу нават пра Нямеччыну, Італію, Гішпанію, Францыю ці Швецыю, а пра акаляючыя Беларусь краіны - Украіну, Польшчу, Летуву, Латвію, Эстонію, Расею) дапускаў адносна мовы яе карэннага насельніцтва выказваньні, маючыя сэнс, блізкі да вашага. Сама ўнікальнасьць сітуацыі павінна быць для вас доказам таго, што вы гаворыце нешта не тое, нешта, што выходзіць за рамкі нармальных паводзін дзяржаўнага дзеяча.

Давайце паспрабуем разабрацца, чым можна растлумачыць узгаданыя вышэй паводзіны кіраўнікоў названых і не названых краін.

Вось вы любіце называць сябе народным прэзідэнтам з-за таго, што за вас у другім туры прагаласавала большасьць тых, хто меў права да галасаваньня (каля 56% выбаршчыкаў - 70%-80%). Але ж вы не станеце адмаўляць, што многія галасавалі не столькі за вас, колькі супраць Кебіча, бо менавіта вы найбольш заўзята абяцалі разабрацца з ім і 70 чыноўнікамі яго акружэньня. Зараз, па меры таго, як вы не выконваеце гэтае і многія іншыя свае абяцаньні (будзем лічыць, што для гэтага ёсьць нейкія сур'ёзныя абставіны), колькасьць падтрымліваючых вас людзей значна зьменшылася. Вось тут я хацеў бы зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што выраз "народны прэзідэнт" мае і іншае значэньне. Сутнасьць яго ў тым, што такі чалавек павінен праз сваю палітыку імкнуцца аб'яднаць увесь народ, узьняць яго дух, яго патрыятычныя пачуцьці. Зрабіць гэта магчыма толькі на шляху выхаваньня гонару за сваю гісторыю, павагі да сваёй культуры, у тым ліку і да мовы. Гэта і ёсьць галоўнае правіла ў дзейнасьці любога сапраўды народнага прэзідэнта. Відаць, таму ні мне, ні вам не вядомы палітычныя дзеячы, якія б у адносінах да культуры і мовы свайго народа паводзілі сябе так, як гэта дазваляеце сабе вы.

Ведаючы, што асабістыя рысы характару і ўзровень культуры кіраўніка дзяржавы з такой уладай, як у вас, не могуць не сказвацца на дзяржаўнай палітыцы, а памылкі могуць небясьпечна адбівацца на жыцьці людзей, улічваючы, што вашыя нападкі на беларускую мову і на тых, хто адстойвае права яе дзяржаўнага існаваньня, з псіхалагічнага пункту гледжаньня могуць быць расцэнены, як праява схаванай у падсьвядомасьці боязьні раскрыць свой нізкі культурны ўзровень (варыянт праявы комплекса псіхалагічнай непаўнавартасьці). На жаль, апошняе можа быць выкарыстана недобразычліўцамі беларускага народа. Пагэтаму дазвольце выказаць вам параду - вывучыце беларускую мову. Гэта абыдзецца таньней і для вас (вашага аўтарытэту), і для ўсяго беларускага народа.

Калі ж вашыя нападкі на дзяржаўную мову зьяўляюцца праявай сьвядомай палітыкі, тады мы маем дачыненьне з іншай сітуацыяй.

Яшчэ не ў самым горшым выпадку вашыя паводзіны могуць быць растлумачаны жаданьнем адцягнуць увагу грамадзтва (праз узбуджэньне барацьбы паміж патрыётамі Беларусі і антыбеларускімі сіламі) ад невыкананьня сваіх перадвыбарчых абяцаньняў, якія датычылі станоўчых зрухаў у эканоміцы і паляпшэньня дабрабыту людзей. Гэта яшчэ па-чалавечы можна зразумець, але і гэта вельмі небясьпечны шлях. Калі ж вашыя "няўдалыя" выступы - гэта сігнальныя сьцяжкі палітыкі, прадыктаванай вам у Маскве ды Сочы і накіраванай на здачу суверэнітэта Беларусі (а значыць, галоўных эканамічных і палітычных каштоўнасьцяў беларускага народа) на карысьць інтарэсаў расейскіх нафтавай, газавай, вайсковай і іншых мафій, тады рыхтуйцеся да сапраўднай барацьбы. Але заранёў скажу, што вам я не зайздрошчу. Мова, якую стагоддзямі спрабавалі растаптаць, у любым выпадку пераэжыве некалькі год вашага кіраваньня, і максімум, чаго вы здолееце дамагчыся, дык гэта кавалка бруднай герастратавай славы.

**P.S. На ўсякі выпадак нагадаю (каб не атрымалася канфузу, як са славутым дзяржаўным беларускім дзеячом Львом Сапегам), што Герастрат - гэта не наш сучасьнік.**

**А.АСТРОЎСКІ,**
**прафесар кафедры біялогіі Гарадзенскага медінстытута, доктар медыцынскіх навук.**



# ГРАМАДЗТВА

## 1995 – ГОД СВІНЬНІ



РАСЬЦІ ВЯЛІКІ!

## РЫНАК ПАТРАБУЕ ЯКАСЬЦІ

У абставінах, калі рынак Беларусі насычаны цыгарэтамі замежнай вытворчасьці, гарадзенская тытунёвая фабрыка "Нёман" робіць усё магчымае, каб яе прадукцыя была больш канкурэнтназдольнай.

Нядаўна заключаны пяцігадовы кантракт з ангельскай фірмай "Універсал Ліф" на пастаўку тытуню, які яна набывае больш чым у пяцідзесяці краінах сьвету. Зараз адбываюцца перамовы з адной з галандскіх фірмаў.

Адначасова прадпрыемства паступова адмаўляецца ад паслуг традыцыйных пастаўшчыкоў сыравіны ў Азербайджане, Кіргізіі, Таджыкістане, Узбекістане. Толькі ў мінулым годзе ім вернута 72 вагоны недабраякаснага тытуню.

У наступным годзе на фабрыцы плануецца пачаць выпуск новых цыгарэт пад назвай "Агонёк".

В.Г.

## НЕ ДАПАМАГЛІ НАВАТ СПОНСАРЫ

Падведзены вынік падпіскі на першае паўгоддзе рэспубліканскіх, мясцовых і замежных выданьняў перыёдыкі. Сапраўдным лідэрам зьяўляецца тут орган абласнога і гарадзкога Савета дэпутатаў "Гродзенская праўда": на яе падпісалася толькі ў Горадні 20057 чалавек. Далей сімпатыі гарадзенцаў размеркаваліся так: "Народная газета" - 4966, "Рэспубліка" - 3437, "Советская Белоруссия" - 2369, "Звязда" - 830, "Свабода" - 821, "Пагоня" - 391, "Мы и время" - 271, "Новая Народная газета" - 150.

На расейскія выданьні жыхары Горадні падпісаліся наступным чынам: "Аргументы и факты" - 4978, "Известия" - 1031.

Як бачна, перавагу гарадзенцы аддаюць больш дэмакратычным незапалітызаваным выданьням, аб чым дадаткова сьведчыць колькасьць падпісчыкаў на такія газеты, як "Мы и время", "Новая Народная газета", якім не дапамаглі ні спонсары, ні палітыка загаду рэдактара "Новай Народнай газеты" Н.П.Машэравай здабыць падпісчыкаў праз сетку афіцыйнай ветэранскай арганізацыі.

Г.ДАМІНІКАНСКІ.

## ІЗНОЎ ТАЛОНЫ

Нечаканы калядны падарунак атрымалі жыхары Прынёманскага краю ад Гарадзенскага аблвыканкама.

На першай сёлетняй радзе вырашана наноў увесьці карткі на сьметанковае масла.

Па картцы гарадзенцы змогуць атрымаць усяго 300 грамаў гэтага гатунку ежы.

А.С.

## ЗЬБЕГЛІ З ВЫРУЧКАЙ

Двух беспрацоўных накіраваў Гарадзенскі цэнтр занятасьці на часовую працу - гандаль навагоднімі елкамі на пляцоўцы, што побач з крамай "Фіялка". Спадзяваліся ў цэнтры занятасьці, што дадуць магчымасьць бедалагам крыху падзарабіць.

Тыя ж выкінулі неспадзяванку: нагандляваўшы амаль 400 тысяч рублёў, зьбеглі з выручкай. А ў сьпешцы нават згубілі пашпарт.

М.ВАСІЛЕВІЧ.

## КРАДУЦЬ УСЁ, ШТО ПАД РУКІ ТРАПЛЯЕ

Сярод белага дня прама з-пад носа супрацоўнікаў другой стаматалагічнай паліклінікі злодзеі скралі некалькі былых у карыстаньні халатаў і радыёкропку.

(Ул.інф.)

## БЕЛАРУСКІХ ЛЁТЧЫКАЎ БУДЗЕ РЫХТАВАЦЬ УКРАІНА

Начальнік Упраўленьня зьнешніх сувязяў Міністэрства абароны падпалкоўнік Д.Шыла пацьвердзіў, што падчас нядаўняга візіту ў Менск украінскага прэм'ера Масола было падпісана пагадненьне, у адпаведнасьці з якім беларускія вайсковыя лётчыкі будуць праходзіць навучаньне ў вайсковых вучэльнях на Украіне. Мінабароны Беларусі раней заяўляла, што падрыхтоўка лётчыкаў на Украіне будзе каштаваць удвая дзешавей, чым у Расеі, дзе яны праходзілі навучаньне дагэтуль.

Д.Шыла адзначыў, што па гэтаму пагадненьню Украіна атрымае магчымасьць рамантаваць авіяцыйную і браніраваную тэхніку на беларускіх рамонтных заводах. Па яго словах, дакумент не прадугледжвае кааперацыі ў вытворчасьці вайсковай тэхнікі.

СІМ

## ПАЦЯРПЕЎ З-ЗА ПЕРАКАНАНЬНЯЎ

Да вас зьвяртаецца Орпік Павел Адольфавіч. Больш семнаццаці гадоў я прапрацаваў загадчыкам аддзелам адукацыі Воранаўскага райвыканкама Гарадзенскай вобласьці. 13 ліпеня бягучага года быў звольнены з працы, як указана ў рашэньні выканкама, "за сістэматычнае невыкананьне сваіх працоўных абавязкаў". У прадугледжаны законам тэрмін, будучы не згодным з прынятым рашэньнем, я зьвярнуўся з іскам у суд аб аднаўленьні мяне на працы. 13 кастрычніка выканкам у працэсе судовага разгляду справы зьмяніў падставы майго звальненьня, прызнаўшы незаконнасьць раней прынятага рашэньня. Суду былі прадстаўлены акты рэвізіі фінансава-крэдытнай дзейнасьці аддзела адукацыі, якая была праведзена пасьля майго звальненьня без майго ўдзелу, але ставіла на мэце зьвязаць з пасады чалавека, чыя жыцьцёвая і прафесійная пазіцыя не заўсёды падабалася кіраўніцтву райвыканкама. І толькі да чацьвёртага пасяджэньня суда было вынесена рашэньне выканкама аб маім звальненьні, але ўжо па артыкулу 254 пункту 1 КЗаП РБ з фармулёўкай - "за аднаразовае грубае парушэньне працоўных абавязкаў".

Матэрыялы праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасьці былі перададзены ў пракуратуру Воранаўскага раёна. Суд у такой сітуацыі быў вымушаны адкласьці разгляд іска па сутнасьці да вырашэньня ўсіх неабходных пытаньняў пракуратурай.

Я ў свой час быў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты ВС РБ. Мая перадвыбарчая праграма адрозьнівалася ад той, якую вылучыў адзін з кіраўнікоў раёна. Я лічыў, што трэба прыкладаць намаганьні ў нацыянальным адраджэньні, захаваньні традыцый усіх нацый, якія пражываюць на тэрыторыі раёна, і рабіць канкрэтныя захады па вырашэньню гэтых пытаньняў. У прыватнасьці, улічваючы, што ў раёне пражывае 86 працэнтаў палякаў, я лічыў, што гэта павінна ўлічвацца пры арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў школах. Мае прапановы не ўтрымлівалі нічога, што магло б быць расцэнена інакш як улік інтарэсаў усіх жыхароў раёна, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці, веравызнаньня.

Дэпутатам ВС РБ я не стаў, аднак перадвыбарчая барацьба адбілася на адносінах да мяне кіраўніцтва раёна. У сваёй іскавай заяве аб аднаўленьні на працы ў якасьці абгрунтаваньня сваіх патрабаваньняў я ўказаў: "Падставай вызваленьня мяне ад займаемай пасады сталі разнагалосьсі з кіраўніцтвам выканкама па пытаньнях нацыянальнага, палітычнага і рэлігійнага характару". Я разумею, што іх прызнаньне выканкамам азначала б прызнаньне парушэньняў канстытуцыйных правоў і свабод асобы, якія маюць месца ў нашым раёне. Але гэта асобная тэма, якая патрабуе сур'ёзнай праверкі, бо зьвязана з аргвывадамі па кадравых пытаньнях, у тым ліку і першых асоб раёна.

З павагай да вас
ОРПІК Павел Адольфавіч.

# ЧАТЫРЫ ДУХОЎНЫЯ ЗАКОНЫ. ЦІ ЧУЛІ ВЫ ПРА ІХ?

**ЗАКОН ПЕРШЫ**

**Бог любіць вас, і ў яго ёсьць цудоўная, дзівосная задума адносна вашага жыцьця.**

**Божая любоў:**

"Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў вечнае жыцьцё".

(Ев. паводле Іаана 3:16).

**Божая задума**

Хрыстос сказаў: "Я прыйшоў дзеля таго, каб мелі жыцьцё, і мелі з лішкам, г.зн. не проста жыцьцё-існаваньне, а паўнацэннае жыцьцё, напоўненае глыбокім духоўным сэнсам".

(Ев. паводле Іаана 10:10).

Чаму ж тады ў большасьці людзей няма гэтага "жыцьця з лішкам"?

Таму што...

**ЗАКОН ДРУГІ**

**Чалавек грэшны і адасоблены ад Бога. Таму чалавек не здольны ні пазнаць, ні адчуць любоў Бога і яго задуму.**

**Чалавек грэшны**

"Бо ўсе саграшылі і пазбаўленыя славы Божай".

(Пасл. да рымлянаў 3:23).

Чалавек быў створаны для таго, каб мець лучнасьць з Богам, але з-за ўпартага свавольства чалавек абраў свой уласны шлях. У выніку гэта лучнасьць з богам была парушана. Гэтае свавольства, якое праяўляецца ў актыўным непаслушэнстве Богу ці проста ў абыякавых адносінах да Яго, Біблія называе грахом.

**Чалавек адлучаны ад Бога.**

"Бо адплата за грэх - сьмерць" (духоўнае адлучэньне ад Бога)

(Пасл. да рымлянаў 6:23).

Бог сьвяты, а чалавек грэшны. Вялізная бездань разьдзяляе іх. Чалавек увесь час намагаецца дасягнуць Бога і жыцьця з лішкам сваімі ўласнымі сіламі, напрыклад, добрымі ўчынкамі, філасофіяй ці рэлігіяй.

На адзінае выйсьце з гэтага тупіка ўказвае трэці закон.

**ЗАКОН ТРЭЦІ**

**Ісус Хрыстос - адзіны. дадзены Богам шлях вызваленьня ад чалавечага граху. Праз яго вы можаце пазнаць і адчуць любоў Бога і яго задуму.**

**Ён памёр за нас**

"Але Бог Сваю любоў да нас даводзіць тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі".

(Пасл. да рымлянаў 5:8).

**Ён уваскрос з мёртвых**

"Хрыстос памёр за грахі нашыя... Ён быў пахаваны і ўваскрос на трэці дзень, паводле Пісаньня, і... зьявіўся Кіфу, пасьля дванаццаці; пасьля зьявіўся болей чым пяцістам братам..."

(І пасл.да карыньцянаў 15:3-6).

**Хрыстос - адзіны шлях да Бога**

"Ісус сказаў яму: Я і шлях, і праўда, і жыцьцё. Ніхто не прыходзіць да Айца, калі не цераз Мяне".

(Ев. паводле Іаана, 14:6).

Сьмерць Ісуса Хрыста - адзіны мост выратаваньня, які Бог перакінуў цераз бездань, што разьдзяліла Яго і чалавека. Прыняўшы замест нас сьмерць, Ісус "заплаціў" за нашыя грахі і зьняў з нас цяжар пакараньня.

Недастаткова проста ведаць гэтыя тры законы...

**ЗАКОН ЧАЦЬВЁРТЫ**

**Нам трэба асабіста прыняць Ісуса Хрыста як Збаўцу і Госпада, толькі пасьля гэтага мы здолеем пазнаць любоў Бога і Яго задуму.**

**Нам трэба прыняць Хрыста**

"А тым, хто прыняў Яго, тым, хто верыць у Яго, даў Ён ім сілу дзяцьмі Божымі стацца"

(Іаана 1:12).

**Мы прыймаем Хрыста верай**

"Бо ласкай вы збаўленыя праз веру, і гэта не ад вас, Божы дар: не ад учынкаў, каб ніхто не хваліўся"

(Пасл. да эфэсцаў 2:8,9).

**Прыняўшы Хрыста, мы нараджаемся нанава**

(Глядзіце Іаана 3:1-8).

Мы прыймаем Хрыста шляхам асабістага запрашэньня. Хрыстос сказаў: "Вось, стаю пры дзьвярах і стукаюся: калі хто пачуе голас Мой і адчыніць дзьверы, увайду да яго..." (Адкрыцьцё 3:20).

Прыняцьцем Хрыста зьяўляецца зварот да Бога ад самога сябе (пакаяньне) і рашэньне дазволіць Хрысту ўвайсьці ў нашае жыцьцё, прабачыць нашыя грахі і зрабіць з нас такіх людзей, якімі Ён жадае нас бачыць. Недастаткова проста розумам усьвядоміць, што Ісус Хрыстос ёсьць Сын Божы і што Ён памёр на крыжы за нашыя грахі. Таксама недастаткова мець эмацыянальныя перажываньні. Галоўнае - прыняць Хрыста верай. Прыняцьце Хрыста верай - гэта дзеяньне нашай волі.

**P.S. Калі ліст рыхтаваўся да друку, стала вядома, што яго аўтар быў абраны на справаздачна-выбарчай канферэнцыі старшынёй Воранаўскага раённага аддзела Саюза палякаў Беларусі. Ён жа атрымаў адказ з Воранаўскай пракуратуры, у якім пракурор раёна, саветнік юстыцыі Е.Труцько паведаміў, што "у збуджэньні крымінальнай справы ў адносінах да Вас адмоўлена за адсутнасьцю ў Вашых дзеяньнях складу злачынства".**

## ПАСТАНОВА ГАРАДЗЕНСКАЙ АБЛАСНОЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ ФРАНЬЦІШКА СКАРЫНЫ

Разгледзеўшы праблемы выкананьня Закона аб мовах у Гарадзенскай вобласьці, Гарадзенская абласная рада ТБМ імя Франьцішка Скарыны адзначае, што ў апошні час пэўнымі сіламі ў дзяржаўным кіраўніцтве інсьпіруецца супрацьдзеяньне яго правядзеньню ў жыцьцё. Разам з тым ёсьць пэўныя падставы сьцьвярджаць, што на Гарадзеншчыне Закон аб мовах можа быць выкананы пасьпяхова і ў вызначаныя тэрміны.

Грунтуючыся на гэтым, Гарадзенская абласная рада ТБМ імя Франьцішка Скарыны пастанаўляе:

1. Працягваць курс на супрацоўніцтва са здаровымі сіламі ў структурах выканаўчай і прадстаўнічай улады з мэтай больш поўнага ўцягненьня органаў улады ў працэс выкананьня Закона аб мовах.

2. Усьведамляючы асабліва важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэньня Беларусі, аказаць усю магчымую падтрымку органам, установам і работнікам адукацыі ў іх дзейнасьці на ніве беларусізацыі.

3. Прадаўжаць разгортваць структуры таварыства, ператвараючы яго ў непалітычную нацыянальна-патрыятычную асьветніцкую сілу.

4. Даваць рашучы адпор любым праявам нацыянальнага нігілізму і грэблівага стаўленьня да мовы беларускага народа. Задзейнічаць для гэтага ўсе магчымыя сродкі.

5. Весьці шырокую прапаганду станоўчых зьменаў у галіне моўнай палітыкі і стану мовы.

6. Заклікаць настаўнікаў Гарадзеншчыны выступаць праваднікамі беларускай мовы ў жыцьцё.

7. Накіраваць дэлегацыю абласной і гарадзкой рады ТБМ да старшыні аблвыканкама для дамовы аб супрацоўніцтве ў галіне моўнай палітыкі.

8. Даручыць старшыням Гарадзенскай абласной і гарадзкой радаў падрыхтаваць зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па праблемах дзяржаўнай мовы ў краіне.

9. Даручыць Гарадзенскай гарадзкой радзе ТБМ разгледзець праблемы Гарадзенскай філіі грамадзкага адукацыйнага цэнтра з мэтай аказаньня неабходнай дапамогі.

10. Рэкамендаваць суполкам ТБМ прыняць удзел у сьвяткаваньні 50-годдзя заканчэньня Другой сусьветнай вайны з пазіцыі нацыянальнага прымірэньня.





# СУМЕЖЖА

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Летува падпісала з кіраўніцтвам расейскага "Газпрама" пагадненьне аб пастаўках прыроднага газу ў краіну ў 1995 годзе. Дасягнута дамоўленасьць, што яна сёлета атрымае 2,5 мільярда кубаметраў газа па 72 долара за тысячу кубічных метраў. Абмяркоўвалася магчымасьць заснаваньня сумеснага летувіска-расейскага прадпрыемства па пастаўках газа.

На сярэдзіну студзеня ў Маскве запланавана сустрэча прэм'ераў Летувы і Расеі. Адным з асноўных пытаньняў будзе абмеркаваньне доўгатэрміновай праграмы паставак Расеяй Летуве нафты і газа.

* * *

Урад Летувы вырашыў аказаць Грузіі гуманітарную дапамогу - 2 тоны масла і 4,5 тысячы тон бляшанак мясных кансерваў. На набыцьцё гэтых прадуктаў Міністэрству сельскай гаспадаркі дазволена выкарыстаць 30 тысяч літаў з сродкаў, прызначаных на фінансаваньне нацыянальнай праграмы сельскай гаспадаркі.

* * *

У Каўнасе вернікам вернуты касьцёл сьв.Гертруды, які пабудаваны ў другой палове XV стагоддзя.

Ужо скончаны зьнешнія рамонтныя работы, зробленыя за кошт дзяржавы. Унутранае аздабленьне даробіць кангрэгацыя манахаў-марыянцаў, якая больш пяцісот год таму пабудавала гэты храм і якой ён цяпер вернуты.

* * *

У кастрычніку мінулага года ўрад Летувіскай Рэспублікі прыняў рашэньне аб адмене візавага рэжыму для грамадзян ЗША, што прыязджаюць у Летуву на 90 дзён і больш кароткі тэрмін. З улікам гэтага пасольства ЗША ў Летуве павідаміла, што з 19 сьнежня 1994 года грамадзянам Летувы выдаюцца візы ЗША, сапраўдныя на працягу 10 гадоў (максімальны тэрмін дзеяньня візы, прадугледжаны законамі Злучаных Штатаў).

Дагэтуль максімальны тэрмін сапраўднасьці віз, што выдаваліся ў амерыканскім пасольстве, складаў 12 месяцаў.

* * *

Консул Летувы ў Калінінградзкай вобласьці Расеі А.Шылярыс лічыць, што ўплыў Летувы на "зямлю продкаў" можа саслабець. На яго думку, прадпрымальнікі Летувы надта мала цікавяцца ёй. Калі імпарт Калінінграда з Летувы складае пяць працэнтаў, то з Нямеччыны і Польшчы - 19 і 25 працэнтаў усёй імпартуемай прадукцыі.

Консул лічыць, што Летува не павінна была адмаўляцца ад расейскага транзіта грузаў у Калінінград. А.Шылярыс назваў "дыпламатычнымі гульнямі" заявы Польшчы аб тым, што яна не мае намеру дамаўляцца з Расеяй пра вайсковы транзіт праз сваю тэрыторыю. На яго думку, Польшча хацела б даць такую магчымасьць Расеі, і сцьвярджае, што бачыў схемы транзіту праз польскую тэрыторыю.

МГ

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Нарвежскі канцэрн "Оркля" выкупіў 51% акцый выдавецкага агенства "Эдытар", якое выдае беластоцкую газету "Кур'ер паранны".

Раней гэты ж канцэрн выкупіў акцыі іншай беластоцкай газеты "Газета всполчэсна".

* * *

Мітрапаліт Васілій наведаў Бельск-Падляскі. Першаіерарх Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ўзначаліў набажэнства, прысьвечанае памяці сьвятога Міхаіла. Таксама Мітрапаліт правёў шэраг гутарак з насельніцтвам.

* * *

Міністэрства замежных спраў Польшчы не знайшло падстаў прызнаць віцэ-консула Расейскай Федэрацыі ў Кракаве Барыса Шардакова персонай нон грата.

Міністр замежных спраў Анджэй Алехоўскі палічыў, што выказваньні Шардакова, які параўнаў Пілсудзкага са Сталіным, не ўяўляюць афіцыйнай палітыкі Расеі.

* * *

У васьмі гмінах Беласточчыны, у якіх найвышэйшы паказчык беспрацоўя, урадам краіны выдаткавана шэсьць мільярдаў злотых на публічныя работы.

Найбольш беспрацоўных зарэгістравана ў гмінах: Бельск-Падляскі - 2565, Чорна-Беластоцкая, Дуброва-Беластоцкая, Гайнаўка, Лапы, Манькі, Сакулка.

* * *

Дэнамінацыя злотых (1:10000) праведзена з першага студзеня 1995 года. Уведзены ў абарачэньне дзевяць манет вартасьцю 1, 2, 5, 10, 50 грошаў і 1, 2, 5 злотых і тры купюры: 10, 20 і 50 злотых.

Ста- і двухсотзлотавыя банкноты будуць уведзены пазьней.

**НА ЗДЫМКУ: Вільня. Слынная Вострая Брама з Вострабрамскай капліцай, у якой знаходзіцца цудоўны вобраз Маці Боскай.**

**Фатаграфаваў Уладзіслаў СТРУМІЛА.**



# ХЕЛЬМУТ БАЛДЭРЫС: «ТЫДНІ ДВА ПАТРЭНІРУЮСЯ... І ЗГУЛЯЮ»

**Аматары хакею другой паловы васьмідзесятых добра памятаюць віртуознае катаньне на каньках і фенаменальную хуткасьць гульца рыжскага "Дынама" Хельмута Балдэрыса. Лёс Балдэрыса-хакеіста вельмі складаны: фактычная дэпартацыя з любімага клуба на грунце ўзмацненьня гульні зборнай СССР да маскоўскага ЦСКА не паспрыяла хакейнаму роскvіту таланта Хельмута. У ЦСКА ён неяк зьнік, а можа, гэтаму перашкодзілі такія зоркі, як Б.Міхайлаў, У.Пятроў, В.Харламаў?**

**На гэтыя ды іншыя пытаньні сам Хельмут даў адказ у інтэрв'ю рэпарцёру "Камсамольскай праўды".**

"Безумоўна, гэта быў хакей, якога на тэрыторыі 1/6 сушы цяпер ужо няма, - успамінае Хельмут Балдэрыс. - У кожнай каманьдзе было па пяць-шэсьць зорак, ды яшчэ па восем-дзевяць класных хакеістаў. Таму вось вам і адказ на пытаньне. Чаму так бліскуча гуляла зборная СССР: Якумаў, Мальцаў, Трацьцяк, Міхайлаў, Путчанка, Пятроў, Харламаў. Усе зоркі, віртуозы, імправізатары. Вытрымаць жорсткую канкурэнцыю з імі было не проста. А што сёньня? Сёньня засталіся толькі хакеісты сярэдняга ўзроўню. Нават прозьвішчы іх не запамінаюцца. Мне прыемна, што і я з таго гурта знакамітых гульцоў. Да першай зборнай мяне запрасіў Барыс Кулагін. Потым, пасьля правалу чэмпіяната сьвету ў 1977 годзе, па загаду ўплывовых чыноўнікаў ЦК КПСС разам з Сяргеем Капусьціным і Сяргеем Бабінавым мяне перавялі да ЦСКА. Хоць у гэтым клубе я стаў чэмпіёнам сьвету, Эўропы і СССР, але гульню сваю неяк страціў. Дзеля яе і вярнуўся праз тры гады зноў дамоў у "Дынама". Відаць, было ўжо позна, бо стаць тым Балдэрысам, якога памятала хакейная Рыга, не змог.

Ад'езд у 1985 годзе да Японіі - пацьверджаньне таго, што я быў ужо іншы.

Чатыры гады працы гуляючым трэнерам дапамаглі ўзьняць спартыўны дух, забясьпечылі матэрыяльна. Калі вярнуўся, то прыняў прапанову ўзначаліць рыжскае "Дынама". Працаваў нядоўга, бо прыйшло запрашэньне з НХЛ".

Пра гэта Хельмут успамінае так: "Папрасіў прабачэньня перад камандай, сказаўшы, што напрыканцы кар'еры гульца хачу яшчэ раз выпрабаваць сябе". У НХЛ Балдэрыс атрымаў гадавы кантракт. Згуляў за клуб "Паўночныя зоркі" 26 гульняў.

Працягнуць кар'еру ў НХЛ перашкодзілі траўмы і "скурныя апетыты" функцыянераў ад хакею. За сваю працу Х.Балдэрыс атрымліваў усяго 10 % ад кантрактнай сумы. Астатняе ішло на рахунак Федэрацыі.

Да таго ж, у ЗША Хельмуту даводзілася плаціць 37 % на падаткі.

Пасьля вяртаньня ў Рыгу пагуляў яшчэ за каманду другой лігі, а затым стаў генеральным менеджэрам мясцовай "Параўгавы" і трэнерам зборнай Латвіі.

Пад яго 19-м нумарам сёньня ўжо ніхто ў Латвіі не гуляе, бо так вырашыла Федэрацыя хакея Латвіі. Хакейны строй Балдэрыса на Радзіме хакеіста стаў рэліквіяй. Але як бы ні шанавалі ў Латвіі памяць аб Хельмуце, ён не жадае быць ні трэнерам, ні гульцом. Прычына - адносіны чыноўнікаў з федэрацыі да развіцьця хакею ў рэспубліцы.

Зараз Балдэрыс - дырэктар рыжскага Палаца спорту. За час працы, дзякуючы сваёй выназходлівасьці, Хельмут навёў поўны парадак у палацы.

Мінулай восеньню ён з настальгіяй глядзеў на турне расейскіх зорак "Дрым-цім", бо з многімі з тых, хто быў на лёдзе, Хельмут гуляў не адну гульню. "З задавальненьнем згуляў бы з імі яшчэ раз, - кажа Балдэрыс, - тыдні б два патрэніраваўся і згуляў бы".

## ДВА ГАДЫ ЗАМЕСТ 6000 ДОЛАРАЎ

У Румыніі расквітнеў новы від бізнесу - гандаль немаўлятамі. Па новых законах краіны пры зьдзяйсьненьні гэтакіх злачынстваў каралюцца не толькі пасрэднікі, але і самыя пакупнікі і прадаўцы. Так, нядаўна суд у Бухарэсьце прыгаварыў сямейную пару з Англіі за набыцьцё немаўляці да 2-х гадоў 4 месяцаў турмы. Дзіця было набыта ў пасрэднікаў за 6 тысяч долараў. Семнаццацігадовыя бацькі атрымалі толькі 600. У турму пойдуць пасрэднікі, а таксама бацькі, толькі пасьля таго, як дасягнуць паўналецьця.

С.Гарошка.

## РЭКЕЦІРЫ ЗАМУЧЫЛІ НАХАБСТВАМ

У Берасьці адбылася сустрэча дэлегацый МУС Беларусі і Галоўнай камендатуры паліцыі Польшчы.

З нашага боку ў сустрэчы ўзяў удзел намесьнік міністра ўнутраных спраў Сяргей Рухлядзеў, з польскага - кіраўнік Галоўнай камендатуры паліцыі Зянон Смолярэк. Пасьля сустрэчы падпісаны пратакол аб разьвіцьці супрацоўніцтва, якое прадугледжвае эфектыўнае і канкрэтнае ўзаемадзеяньне бакоў па прафілактыцы злачыннасьці і барацьбы з ёй.

Да праекта аб калектыўнай сістэме супрацоўніцтва ў барацьбе са злачыннасьцю ў найбліжэйшы час павінны далучыцца МУС Расеі, Украіны і краін Прыбалтыкі. Дзеля гэтага 11-13 студзеня плануецца візіт у Менск міністра ўнутраных спраў Польшчы.

Прычынай для стварэньня калектыўнай службы па барацьбе са злачыннасьцю праваахоўных органаў Беларусі і Польшчы стала ўзмацняючаяся інтэрнацыяналізаваная, зарганізаваная злачыннасьць. Транзіт наркотыкаў праз тэрыторыю Беларусі і Польшчы, бандытызм на аўтамагістралях - усё гэта выйшла за рамкі лакальных праблем і запатрабавала аб'яднаных высілкаў барацьбы супраць роскvіту крымінальнага элементу.

СІМ


**КОМПЛЕКС БАНК**

**Працэнтныя стаўкі па дэпазітным укладам у доларах ЗША і нямецкіх марках**

ДЛЯ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ

МАКСІМАЛЬНАЯ СТАЎКА 25 %
Сума ўкладу ад 20000 $ на тэрмін ад 2 да 12 месяцаў

МАКСІМАЛЬНАЯ СТАЎКА 30 %
Сума ўкладу ад 100000 $ на тэрмін ад 1 года і болей

ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ АСОБ

ПРАЦЭНТ ГАДАВЫХ: 3 мес. 17 %, 6 мес. 18 %, 9 мес. 20 %, 12 мес. 21 %
Сума ўкладу ад 300 $ альбо 500 DM

ПРАЦЭНТ ГАДАВЫХ: 3 мес. 20 %, 6 мес. 21 %, 9 мес. 22 %, 12 мес. 23 %
Сума ўкладу ад 1000 $ альбо 1600 DM

ПРАЦЭНТ ГАДАВЫХ: 3 мес. 21 %, 6 мес. 22 %, 9 мес. 23 %, 12 мес. 24 %
Сума ўкладу ад 4500 $ альбо 7000 DM

г.Горадня, БЛК, 6а
тэл. (0152) 31-25-14


# ДРУСКЕНІКІ – НЕ ТОЛЬКІ КУРОРТ

У 1993 годзе медыкі Летувы афіцыйна зарэгістравалі 629 наркаманаў і асобаў, якія трапілі ў залежнасьць да наркотыкаў. А эксперты ААН выказалі два гады таму назад меркаваньне, што наркаманаў у Летуве каля 10 тысяч.

Друскенікі часта называюць сталіцай наркаманаў Летувы. Першы наркаман - Юргіс Янчкаўскас - зьявіўся ў горадзе прыкладна 20 гадоў таму назад. У мінулым годзе яго знайшлі мёртвым. Колькасьць 30-40-гадовых наркаманаў, якія паміраюць, расьце ў Друскеніках з кожным годам.

Па зьвестках паліцыі, цяжкія злачынствы за наркаманамі пакуль не лічацца. На іх рахунку - пераважна дробныя крадзяжы з балконаў, памяшканьняў, сушылак. Сярод друскеніцкіх наркаманаў набярэцца паўтара дзесятка жанчын і зусім маладых дзяўчат. Ёсьць і сем'і, у якіх наркотыкі ўжываюць і муж, і жонка. Дзеці ў іх пакінуты на волю лёсу. Рэдка ў якога наркамана ёсьць сталая праца. У гарадзкой паліклініцы на дыспансерным уліку знаходзяцца 34 наркаманы. На прафілактычным - 67 чалавек. У гэтым годзе гарадзкі камісарыят паліцыі за набыцьцё, хаваньне і выкарыстаньне наркатычных рэчываў узбудзіў звыш дзесятка крымінальных спраў. 16 чалавек, якія ўпершыню пакаштавалі наркотыкі, пакараны ў адміністрацыйным парадку. Паліцыя называе Лазьдзіейскі, Алітускі і Варэнскі раёны "бермудзкім трохкутнікам". Менавіта тут квітнее макавы промысел. Мак высяваюць у калектыўных садах, на хутарах, у гарадах, лясной глушы, на палях сярод збожжа.

Раней, калі попыт на наркотыкі не быў такім вялікім, наркаманы здабывалі мак у вёсках. Жыхары аддавалі яго проста так або ўзамен на цукар, крупы. За мак можна было атрымаць і крадзеныя рэчы: прас, ровар, прасьціну. У апошнія два-тры гады адчуваецца эўрапеізацыя - трэба плаціць доларамі, пагэтаму наркаманы часта крадуць мак, за што іх б'юць. Канфліктуючыя бакі не зьвяртаюцца, аднак, у паліцыю: баяцца крымінальнай адказнасьці.

Паліцыя падкрэсьлівае, што праз Паўднёвую Летуву не праходзяць пакуль шляхі міжнароднага транзіту наркотыкаў, таму рана пакуль званіць ва ўсе званы.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**




*СПАРТЫЎНЫ КАЛЕЙДАСКОП*

## ГАРАДЗЕНЦЫ СЯРОД ЛАЎРЭАТАЎ

Федэрацыя па водных відах спорту Рэспублікі Беларусь падвяла вынікі выступаў беларускіх ветэранаў на міжнароднай арэне і вызначыла сярод спартсменаў і трэнераў па пяць лепшых.

Сярод спартсменаў лепшым аказаўся і гарадзенскі плавец Максім Жураўлёў, які летась стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Эўропы сярод моладзі.

Трэнер Максіма, Аляксандр Аўдзееў, таксама ў сьпісе лаўрэатаў федэрацыі.

Г.В.

## «ЛІДЧАНЕ» Ў МЕНСКУ

28 сьнежня перыферыйная Ліда зрабіла навагодні падарунак Менску.

Справа ў тым, што ў Палацы мастацтваў сталіцы адкрылася выстава творчага аб'яднаньня "Лідчане" 14-й сярэдняй школы г.Ліды.

Адбылася ўнікальная падзея. Упершыню ў гісторыі Палаца мастацтваў тут выстаўлілася адна школа. Ды яшчэ з раённага цэнтру, няхай сабе і такога славутага, як Ліда.

На прэзентацыі, якая пачалася ў 13.00 гадзін, прысутнічалі прадстаўнікі міністэрстваў культуры і адукацыі, Саюза мастакоў Беларусі, кіраўнікі Ліды і Лідзкага раёна, спонсары выставы. Песьнямі, музычнымі кампазіцыямі аздаблялі прэзентацыю навучэнцы Лідзкага музычнага вучылішча.

С.СУДНІК.

## ПАКУЛЬ ШТО ТРЭЦІЯ

У апошні дзень старога года, нягледзячы на перадсьвяточныя клопаты, прайшлі чарговыя гульні гарадзкога турніра па мініфутболу. "Пагоня" у гэтым туры здабыла 1 ачко, згуляўшы ўнічыю з камандай "Хімвалакно-2". Лік сустрэчы - 2:2. Абодва галы для "Пагоні" здабыў А.Калошыц. Можна адзначыць таксама неблагую гульню варатара С.Ленца.

Зараз "Пагоня" мае 8 ачкоў і займае 3-е месца ў турнірнай табліцы.

М.БЕЛАКОЗ.

## КЭШ ВЯРТАЕЦЦА

Ветэран аўстралійскага тэнісу Пэт Кэш паспрабуе вярнуцца ў вялікі тэніс пасьля складанай аперацыі на сухажыльлі.

Падрыхтоўку да галоўнага матча сезона, адкрытаму першынству Аўстраліі, што залічаны да серыі "Вялікага шлему", Кэш распачне з выступу на невялікім паўпрафесійным турніры "Каланіял мьючуал класік", які адбудзецца ў сярэдзіне студзеня.

Праўда, кампанія на турніры вельмі вядомая - гэта Піт Сампрас, Стэфан Эдберг, Міхаэль Штых, Майкл Чанг, Барыс Бэкер.

Г.Г.

## НЕПРЫЧЭСАНЫЯ ДУМКІ

І пуга пускае парасткі, калі трапіць у спрыяльную глебу.

Карлікам трэба нізка кланяцца.

Няведаньне закона не вызваляе ад адказнасьці, затое веданьне - часта.

Акно ў сьвет можна закрыць газетай.

Сны залежаць ад становішча сьпячага.

Сатыра ніколі не можа здаць экзамен: у журы сядзяць яе аб'екты.

У кожным стагоддзі ёсьць сваё сярэдневечча.

Сумленьне ў яго чыстае. Не было ў выкарыстаньні.

Не закрывай рот тым, хто расплюшчвае табе вочы.

Самая азартная з ваенных гульняў - гульня ў дэмакратыю.

(Л.С.)

## ПІЦЬ ТРЭБА МЕНЕЙ

Штраф памерам 23 тысячы лір павінен заплаціць 50-гадовы інжынер Паола Раджыні за тое, што яго сабачка наталіла прагу з фантана рымскай вілы Тарлонія.

На бяду гаспадара, непадалёк фантана патрулявалі паліцыянты, якія зьдзейснілі затрыманьне на месцы злачынства.

Дарэчы, муніцыпалітэт Рыма прыняў нядаўна закон аб забароне ўжываць ваду для піцьця з фантанаў сталіцы, якія зьяўляюцца яе гонарам.

(з.д.)

*КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

## НОЧКА ЦЁМНАЯ ПРЫЙШЛА...

Пярэдадзень Новага года не абыйшоўся без шэрагу цяжкіх злачынстваў, учыненых, вядома ж, у нецьвярозым стане. Сцэнары гэтых, у асноўным кухонных, паядынкаў падобныя, як блізьняты.

У в.Цацкі Лідзкага раёна трагічнае непаразуменьне за чаркаю ўзьнікла паміж бацькам і сынам. У выніку 30-гадовы сын з траўмаю галавы памёр у бальніцы.

У в.Васкрысенка на Ашмяншчыне вячэрняя разборка паміж "вясёлымі" мужам і жонкай таксама скончылася лятальным зыходам: 40-гадовы мужчына памёр на месцы ад вялікай страты крыві, калі атрымаў ад "спадарожніцы жыцьця" нажавое раненьне левага бядра.

У Горадні ў доме па вул.Горкага класічны "міжсабойчык" адбыўся паміж цесьцем і зяцем. У выніку 56-гадовы пенсіянер пакінуў на месцы здарэньня паміраючага ад удара ў сэрца сваяка і паспрабаваў уцячы, але праз чатыры гадзіны быў затрыманы.

## ШЭРАГІ РЭКЕЦІРАЎ РАДЗЕЮЦЬ

У Лідзе двое юных "ракетчыкаў" уключылі "лічыльнік" для навучэнца індустрыяльнага тэхнікума. Але не давялося ім пакарыстацца сотняй "зялёных", якія былі ім перададзены, бо адразу пасьля гэтага абодва апынуліся ў цесных "абдымках" мясцовага АБАЗа.

## АДКУЛЬ "МАСЬЛЯКІ"?

Пэўна, ужо нідзе не працуючаму 30-гадоваму жыхару Ліды давядзецца падрабязна растлумачыць сьледчаму не толькі аб паходжаньні самаробнага нагана, але і аб васьмі патронах.

## ЗАКОН І ВЕРА

Здаецца, калі чалавек не верыць у Бога, то толькі страх пакараньня зможа спыніць яго ад бязьлітаснага ўчынку. На жаль, аднак, і яго Вялікасьць Закон не змог абараніць жыцьцё немаўляці ў в.Кальчуны Ашмянскага раёна,якое загінула ад рук уласнай маці.

## ВАНДАЛЫ НА МОГІЛКАХ

Відаць, не апраўдала спадзяваньні бандытаў захаваньне 83-гадовага жыхара вёскі Полбераг на Наваградчыне. Ускрытая труна ніякім чынам не палепшыла матэрыяльны дабрабыт трунакапальнікаў. А вось іх сумленьне - няўжо не загаворыць?

## ...І ЛЯ ЦАРКВЫ

Нават блізкасьць Пакроўскай царквы не выратавала ад бязьлітаснай сякеры тры цудоўныя блакітныя елкі, што расьлі каля будынка "Гродна-аблаўтатранса" па вул.Ажэшка.

Так і цягне крыкнуць: "Каб вам рукі..."

## ДЗЮБЕЛЕМ У СЭРЦА

Бадай упершыню ў трагічнай статыстыцы Гарадзеншчыны дзеля самагубства ўжыты будаўнічы пісталет. За трое сутак да Новага года яго скарыстаў у сваёй кватэры па вул.Горкага 58-гадовы інжынер электра-мантажнага трэста.

## ПАЛЁТ ЛЯ "КАМЕТЫ"

Калі двое супрацоўнікаў лідзкай міліцыі заўважылі ноччу на даху новабудоўлі падазронага мужчыну , той кінуўся ўцякаць. Яно і не дзіўна, бо побач знаходзілася камерцыйная крама "Камета". Але ўцячы злодзей не змог - упаў з даху. "Палёт" скончыўся няўдала: зламысьнік атрымаў пры гэтым некалькі цяжкіх цялесных пашкоджаньняў.

Г.СЫСОЙ.

## НОЧ ПАД НОВЫ ГОД

Замкнула зямля свой яшчэ адзін круг,
Другі зачынае.
Маўчыць непрытульна засьнежаны луг
І пушча лясная.
Мігаюць далёкія зоркі ўгары,
Як чыстыя росы.
І ходзіць паважна мароз па бары,
Злы, белавалосы.
Глядзіць неласкава скляпеньне нябёс
На скутую землю,
У Млечнага Шляху паблеклы пракос
У холадзе дрэмле.
У гэтым зьмярцьвеньні начной цішыні
Год новы вітаю.
- Якою пуцінай вы пойдзеце, дні?
- Я моўчкі пытаю.
Маўчыць неабсяжны прастор-глыбіня
Без берагу-краю.
Маўчыць з ім і постаць наступнага дня.
І я замаўкаю.

Якуб КОЛАС.

## КРУПЕНКУ ПАДТРЫМАЛІ ЎСЕ, ГУДЗЕЯ - БОЛЬШАСЬЦЬ

3 студзеня прайшла сесія Гарадзенскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў. Асноўным пытаньнем, якое разглядалася на ёй, было прызначэньне старшыні выканаўчага камітэта.

Са згоды Прэзідэнта Беларусі старшыня Гарадзенскага аблвыканкама прапанаваў на гэтую пасаду кандыдатуру ранейшага мэра горада Г.А.Крупенку. Дэпутаты аднагалосна і без абмеркаваньня падтрымалі яе.

На сесіі быў таксама абраны новы старшыня гарсавета. Пераважная большасьць дэпутатаў шляхам тайнага галасаваньня выказала падтрымку Ф.П.Гудзею, былому начальніку ўпраўленьня ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама. Цікава, што першыя свае словы на новай пасадзе ён сказаў на расейскай мове.

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

"Пагоня" паведамляла, што ў Горадні прайшоў чарговы аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасьці. На таргі выстаўлялася ўсяго чатыры лоты (напэўна, арганізатары аўкцыёна ўлічылі, што толькі на двух папярэдніх з 18 і 11 аб'ектаў, што выстаўляліся на іх, тры і пяць адпаведна былі зьняты з таргоў). Аўкцыён не выклікаў вялікай зацікаўленасьці ў дзелавых людзей: на кожны з аб'ектаў прэтэндавала 2-3 чалавекі. Але ж амаль усе былі прададзены за нядрэнныя грошы.

Самай дарагой аказалася крама "Мотавела" па вул.Белуша. Пры пачатковай цане 87,5 мільёна рублёў яна была прададзена ва ўласнасьць за 800 мільёнаў Астатнія аб'екты набываліся на правах арэнды.

Тэрмінам на 10 гадоў з умовай захаваньня профілю прадпрыемства на пяць год і кольказьці працоўных месцаў на два гады новы ўласьнік атрымаў краму "Валошка" па вул.Горкага (стартавая цана - 18,6 мільёна рублёў, продажная - 42 мільёна). На такі ж тэрмін з аналагічнымі ўмовамі быў прададзены кактэйль-бар "Ручаёк". Продажны кошт яго перавысіў пачатковы (5 мільёнаў) у 22 разы. Затое права пяцігадовай арэнды прыбудаванага памяшканьня, што на 2-ім завулку Белуша, было набыта за адносна невялікія грошы - 3,9 мільёна рублёў (стартавая цана - 2 мільёна).

Усяго за выстаўленыя на аўкцыёне аб'екты атрымана 955,9 мільёна рублёў. Ці шмат гэта? Калі ўлічыць, што на папярэднім шэсьць лотаў былі прададзены за 1894 мільёны, то не. Але ж тады амаль усе аб'екты набываліся ва ўласнасьць.

P.S.: Калі нумар рыхтаваўся да друку, стала вядома, што 31 студзеня пройдзе восьмы аўкцыён. На ім плануецца выставіць шэсьць аб'ектаў: кавярню, дзьве харчовых, адну гароднінавую і адну прамтаварную крамы, а таксама кіёск.

## СА ЗВЫЧКАЙ ДАВЯДЗЕЦЦА РАЗЬВІТАЦЦА

Жыхары і госьці Горадні страцілі магчымасьць тэлефанаваць бясплатна гарадзкім абанентам з тэлефонаў-аўтаматаў, што беспярэшкодна рабілі на працягу прыкладна двух гадоў.

З пачатку студзеня званок можна будзе ажыцьцявіць толькі пры наяўнасьці спецыяльных жэтонаў. Прадаюцца яны ў кіёсках "Белсаюздруку" і аддзяленьнях сувязі. Кошт аднаго складае 72 рублі.

А.ДУК.

*ІНФАСЬМЕХ*

### У КПСС

У КПСС адбыўся раскол: з аднаго боку апынулася партыя, з другога - розум, гонар і сумленьне нашай эпохі.

### З ЖЫЦЬЦЯ КРАІНЫ

Краіна перажыла гады Вялікага Пачыну, Вялікага Ўздыму, Вялікага Пералому, Вялікага Подзьвігу, Вялікай Перамогі, Вялікага Прарыву. Зараз час Вялікага Прыколу.

### БУДАЎНІЦТВА

Поўным ходам ідзе будаўніцтва новага грамадзтва - урад робіць разумныя фізіяноміі.

### ШТО СТВАРАЕЦЦА Ў НАС?

На Захадзе ідзе стварэньне Агульнаэўрапейскага дома, на Ўсходзе - Эўраазіяцкага дурдома.

### ПАТРЭБНЫ ПСІХІЯТРЫ

Ідуць спрэчкі, хто зараз павінен кіраваць дзяржавай: добрыя эканамісты, добрыя палітыкі ці добрыя юрысты. Аднак відавочна, што зараз дзеля гэтага былі б больш карыснымі добрыя псіхіятры.

### У ДАРВІНІСТАЎ

Дарвіністы атрымалі новыя доказы паходжаньня чалавека ад малпы, вывучаючы інтэнсіўны зваротны працэс, што зараз адбываецца ў краінах СНД.

* * *

- Ці шмат зараз харчовых прадуктаў у рэспубліцы?

- Шмат - як валасоў на галаве прэзідэнта.

* * *

- У чым галоўная розьніца паміж доларам і беларускім рублём?

- Долар забясьпечаны золатам, а рубель - абяцанкамі.

(Л.С.)

КОМПЛЕКС БАНК
Адчынены новыя пункты абмену валюты
г.Горадня

| | Выходныя дні | Часы працы |
|---|---|---|
| Магазін "Вест" (вул. Горкага, 64) | без вых. | 9.00 - 21.00 ** |
| Рынак (вул. Антонава) | пн | 8.30 - 13.30 ** |

** - наяўн., безнаяўн. разьлік

Пункт абмену валюты на чыг. вакзале працуе кругласутачна.

Горадня
31 студзеня 1995 г. а 11.00
Аўкцыён
прапануе наступныя аб'екты камунальнай уласнасьці

| | |
|---|---|
| 3 КРАМЫ | Агульная плошча (кв.м.): 270, 741 і 797. Пачатковы кошт (млн.руб.): 417, 302,7 і 316,2. |
| БУДЫНАК КРАМЫ | Агульная плошча 63,2 кв.м. Пачатковы кошт 42,6 млн.руб. |
| КАФЭ | Агульная плошча 252,5 кв.м. Пачатковы кошт 7,9 млн.руб. |
| КІЁСК | Пачатковы кошт 1,6 млн.руб. |

Цалкам інфармацыю Вы зможаце атрымаць па адрасу:
*230023, г.Горадня, пл.Леніна, 2/1, пакой №№ 57, 58.*
*Тэл. (0152) 45-29-81, 47-29-56.*

"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зместразьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 71.
Наклад 10037 паасобнікаў.